# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## З НОВЫМ КРЭСЛАМ, АЛЯКСАНДР ІОСІФАВІЧ!



**На Гарадзеншчыне поўным ходам ідзе вылучэньне кандыдатаў у члены верхняй палаты беларускага парламанту - Нацыянальнага сходу.**

**20 сьнежня адным з першых на будучую сенатарскую пасаду быў вылучаны старшыня гарадзенскага аблвыканкаму Аляксандр Дубко.**

Згодна з прэзідэнцкай Канстытуцыяй і Палажэньнем аб выбарах кандыдатаў у члены Нацыянальнага сходу, выбары адбываліся на сумесным пасяджэньні прэзідыумаў Саветаў і выканкамаў Гарадзенскага, Бераставіцкага і Мастоўскага раёнаў.

Кандыдатуру Дубко прапанаваў дырэктар вучэбнай гаспадаркі «Прынёманскі» Гарадзенскага раёну Іван Сьліжэўскі.

«О доброте и доступности Александра Иосифовича можно много говорить,» - выказаўся кіраўнік вучгасу і , сапраўды, з паперкі гаварыў шмат.

Не адставалі ў колькасьці выказаных эпітэтаў («руководитель лучшего в СССР колхоза», «отец гродненского хоккея» і г.д.) і іншыя прамоўцы, якія неяк адразу і натуральна ўспомнілі, і з задавальненьнем акунуліся ў крыху падзабытыя брэжнеўскія часы адзінагалосных рашэньняў і безальтэрнатыўных кандыдатураў.

Нават шаноўны Аляксандр Дубко (мэтазгоднасьць вылучэньня якога мы ніякім чынам не аспрэчваем. - **В.Л.**) адчуваў сябе ў такой атмасьферы ня надта ўтульна і нават заявіў на самым пачатку сваёй прамовы, што «как-то лучше» успрымае, калі яго "ругают".

Па словах старшыні аблвыканкаму, вылучэньне ў кандыдаты на сенатарскую пасаду для яго было нават нечаканым («я и не надеялся ...»), а таму ён толькі каротка выклаў асноўныя моманты сваёй праграмы, з якой ідзе ў Нацыянальны сход:

«Я буду прикладывать все силы, чтобы наша страна стала на путь подъёма экономики, стабильности, уважения друг к другу».

Пакуль жа, па словах спадара Дубко, перашкаджаюць гэтым слушным памкненьням «отдельные лица». Да прыкладу, дэпутаты Вярхоўнага Савету Анатоль Лябедзька і Васіль Новікаў, якія «выехали в Бельгию и там все их ...действия направлены на то, чтобы Европейское сообщество ...сделало Беларусь страной изолированной». Аляксандр Дубко таксама крытычна ацаніў выступ прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага, прысьвечаны сітуацыі на Беларусі (скарочаны тэкст гэтага выступу быў надрукаваны ў мінулым нумары «Пагоні». - **В.Л.**), паведаміўшы, што на яго гэта «наложило большой отпечаток сожаления». Разам з польскім прэзідэнтам у карак атрымалі «Пагоня» і «Свабода»: «Среди населения Гродненщины -больше четверти этнических поляков. Откуда такие газеты как «Пагоня» и «Свобода» черпают информацию о демонстрациях, неподчинениях законам, издевательствах. Ну нет же такого!»

Дзе і калі на старонках «Пагоні» пісалася пра дэманстрацыі палякаў, зьдзекі над імі на Гарадзеншчыне - пакінем на сумленьні сп. Дубко. Аднак заўважым, што будучаму сенатару пажадана надалей больш ўзважваць свае словы.

Зацьверджаньне кандыдатураў навасьпечаных сенатараў дэпутатамі ўсіх гарадзкіх і раённых Саветаў вобласьці адбудзецца 30 сьнежня. На восем адведзеных Гарадзеншчыне месцаў вылучана, як і мае быць, восем чалавек. Акрамя Аляксандра Дубко сенатарскія крэслы ўжо чакаюць намесьніцу кіраўніка арэнднага будаўніча-мантажнага трэсту N19 г.Ліда **Кацярыну Васілючак**, дырэктара Шчучынскага дзяржаўнага будаўнічамантажнага прадпрыемства меліярацыі і гаспадарчых сістэмаў **Міхаіла Саковіча**, мастацкага кіраўніка ансамбля песьні, музыкі і танцу «Белыя росы» абласной філармоніі **Яўгена Штопа**, галоўнага ўрача супрацьтуберкулёзнага дыспансеру Ваўкавыскага тэрытарыяльна-медычнага аб'яднаньня **Міхаіла Залуцкага**, дырэктарку СШ N9 г.Слоніму **Любоў Слюсараву**, старшыню Смаргонскага райвыканкаму **Мікалая Кавалёва**, дырэктарку навагрудзкай швейнай фабрыкі **Аліну Бахар**.

**Віктар Людвіковіч**

## ФІГАРА ТУТ, ФІГАРА ТАМ

**Абодва лідзкія дэпутаты Вярхоўнага Савету Антон Блюднік і Яўген Енка своечасова пасьпелі «прагнуцца» перад Прэзідэнтам і аказаліся ў палаце прадстаўнікоў лукашэнкаўскага Нацыянальнага сходу.**

Карэспандэнт «Лідзкай газеты» задаў у сувязі з гэтым спадару Енку некалькі пытаньняў і сярод іх наступнае:

***-Наколькі ведаю, члены Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь будуць працаваць у Палаце на прафесійнай аснове.***

*- Пытаньне зразумеў. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка папрасіў кожнага дэпутата напісаць заяву наконт таго, зьбіраецца ён стаць прафесійным парламантарыем ці будзе спалучаць асноўную работу з грамадзкай. Многія мае калегі па былому Вярхоўнаму Савету выбралі для сябе зьмешаны род дзейнасьці.*

Яно і зразумела. Які ж прадбачлівы беларус кіне ўсё і пабяжыць без аглядкі і без магчымасьці вярнуцца назад. «Бацька» характар мае круты, ня так ступіў - і бывай здароў. Таму большасьць дэпутатаў і імкнецца захаваць сваё месца ў правінцыі і «прафесійна» папрацаваць у палаце. Яно і матэрыяльна нябдага. І тут плацяць, і там ня крыўдзяць. Іншая справа, што прафесіяналы з іх ахавыя. І тут гаспадарку валяць, і там будуць. Але сёньня гэта ўжо няважна. Калі які закон і ня так напішуць, «бацька» падправіць ці сваім дэкрэтам адменіць. А яны прагаласуюць і «за», і «супраць», і наўскасяк, галоўнае - своечасова даведацца, як «бацька» таго хоча.

## ШТО МОЖНА РАБІЦЬ ЮПІТЭРУ, ТАГО НЕЛЬГА САЎГАСНАМУ БЫЧКУ

**Параўноўваючы сітуацыю на Беларусі ў 1996 годзе з расейскай сітуацыяй 1993 года, інтэрдэмакратычныя сродкі масавай інфармацыі самі таго не ўсведамляючы, робяць мядзьвежую паслугу дэмакратыі. Параўноўваючы сітуацыі, яны міжволі параўноўвалі Ельцына і Лукашэнку, надаючы апошняму ельцынскай важнасьці і значнасьці, падахвочваючы былога саўгаснага дырэктара да велічнага ўспрыманьня самога сябе.**

Але Лукашэнка - не Ельцын. І я нават не стану разьбіраць па прыкладу «Народнай волі», на колькі Ельцын больш дэмакратычны і прагрэсіўны. Справа зусім ня ў тым. Будзь Ельцын нават рэтраградам, устанаві ён пасьля разгону парламенту ў Расеі зноў камуністычную ці якую яшчэ дыктатуру, усё роўна яму не ўстроілі б навят нечага хоць крыху падобнага на тую абструкцыю, якую ўстроілі Лукашэнку ў Лісабоне.

Чаму? Ды таму, што за Ельцыным - Расея. Галодная, халодная, нямытая, але гэта Расея магутная і вялікая, з кучай ядзерных ракетаў, падводных лодак і ўсялякага іншага начыньня, хоць іржавага, з галоднымі і абарванымі экіпажамі, але страшнага, як страшна нават тупая сякера самаму сучаснамукампутару. Злаваць Расею нельга. Яе трэба падкарміць, прылашчыць, навучыць, як з той сякеры хаця б арыфмометр зрабіць.

Іншая справа Беларусь. Беларусь для Еўропы - дробязь. Лукашэнкава агрэсіўнасьць і пырсканьне сьлінай у бок НАТА, гэта для Еўропы як варушэньне вусоў таракана ў слоіку. На Беларусі можна паказаць іньшым гульцамза еўрапейскім покерам: «Не парушайце правілаў, будзе кепска». І будзе. З Лукашэнкам у Лісабоне не пажадаў размаўляць ні адзін з заходніх палітыкаў. Віктар Чарнамырдзін і той, запрасіўшы прэзідэнтаў Украіны і Летувы, пра нашага забыўся. Толькі бедны Бразаўскас неяк трапіўся ў кадр побач з прэзідэнтам Беларусі...

Сесія АБСЕ не прыняла сьпецыяльную пастанову па Беларусі, бо пастановы там прымаюцца аднагалосна, а Беларусь ды Расея былі б супраць. Але такую заяву прыняла тройка, якая кіруе міжнароднай палітыкай АБСЕ (міністры замежных справаў Венгрыі, Швейцарыі і Даніі - папярэдні, цяперашні і наступны кіраўнікі АБСЕ).

Дэлегацыя з Беларусі пакінула залу Лісабонскага саміту (якраз пасьля рэзкага антылукашэнкавага выступу прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага). Але Беларусь ня можа пакінуць Еўропу. Навят усіх нявых і старых паўнамоцтваў прэзідэнта-самадзержца недастаткова, каб перанесьці нас у Амерыку. Давядзецца цярпець. Цярпець міжнародную ізаляцыю, пагаршэньне эканамічнай сітуацыі, зьняважлівыя адносіны да кожнага беларуса адразу ж за мытным пераходам ва ўсе бакі, бо што можна Юпіцеру (Ельцыну і Расеі), тое нельга саўгаснаму бычку.

**Станіслаў Суднік**

## ГЭТА ВЫПРАБАВАНЬНЕ І ДЛЯ ВАС!

"Дыктатура на Беларусі ёсьць пагроза дэмакратыі і спакою ва Усходняй Еўропе. Дыктатура на Беларусі ёсьць выпрабаваньне для еўрапейскай дэмакратыі. Пагадзіцца з дыктатурай на Беларусі - значыць спыніць гаворку пра дэмакратыю. Прызнаць беззаконьне на Беларусі - значыць пагадзіцца з верагоднасьцю бясправу ў сваіх краінах. Прызнаць дыктатуру на Беларусі - значыць прыняць перспэктыву расейска-імперскага наступу і згадзіцца з пагрозай суверэнітэту," - гаворыцца ў распаўсюджаным 12 сьнежня звароце старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянона Пазьняка да палітычных, грамадзкіх і парламанцкіх арганізацыяў Польшчы, Украіны, Латвіі і Летувы. Старшыня БНФ усклаў адказнасьць за "дзяржаўны антыканстытуцыйны пераварот, зьдзейснены ў Беларусі з 7-га па 24 лістапада", на кіраўніцтва Расеі.

«Тое, што адбываецца на Беларусі ў апошнія два з паловай гады, ёсьць... вынік крамлёўскай палітыкі...

За плячыма Лукашэнкі стаіць імперская палітыка Расеі, яе прэтэнзіі на вызначальную ролю ва Усходняй Еўропе, на падзел сьвету на сферы ўплыву, на інтэграцыю па прынцыпах мафіёзнага нэакаланіялізму. Невыпадкова, што Лукашэнка найбольш блізкі з пракамуністычна-шавіністычнымі коламі Расеі, якія імкнуцца да рэваншу, да аднаўленьня СССР і расейскай імперыі, да палітыкі агрэсіі і дыктату, да павелічэньня ціску на Украіну, Польшчу, на краіны Балтыі. Невыпадкова, што ў ноч з 21 на 22 лістапада Расея ўмяшалася ў беларускія справы і выратавала лукашэнкаўскі рэжым на Беларусі, які вісеў на валаску,» - гаворыцца далей у заяве.

Зянон Пазьняк заклікаў суседнія краіны праявіць салідарнасьць з барацьбой беларусаў супраць «прамаскоўскай дыктатуры».

**Вінцук Мальскі**

## ЧЫМ ПЛАЦІЦЬ ЛУКАШЭНКА?

**Беларусь абляцела вестка, што Расея падціскае газавыя і нафтавыя кранікі.Тым ня менш,газавая плынь не мялее. І дзівяцца ўсе «суседзі-каралі», як гэта ўдаецца "бацьку" Лукашэнку смактаць газ і нафту так доўга і, галоўнае, на дарэмніцу. Аднак,наконт «дарэмніцы» яны памыляюцца. Лукашэнка плаціць, і рэгулярна. Але не далярамі, а сваёй сьпецыяльнай валютай - ініцыятывамі па інтэграцыі ўсё больш і больш цеснай, усё больш блізкай, глыбокай і высокай. Адзінку гэтай валюты можа назваць адзін інтэгрубель.**

Скажам, калі адзіная мытная прастора каштуе 10 інтэгрублёў, то супольнасьць цягне на сотню. Падтрымка ў зьнешняй палітыцы - дробязь -тры, ад сілы, пяць інтэгрублёў. А вось заява пра канфедэрацыю і на паўтысячы цягне. Так што, шаноўныя суседзі, плаціць Лукашэнка, плаціць. І толькі Масква ведае, колькі ў яго яшчэ інтэгрублёў засталося, на колькі цягне ўся Беларусь.

**Станіслаў Суднік**




## З НОВЫМ ГОДАМ! З НОВЫМ ШЧАСЬЦЕМ! У НОВАЙ КРАІНЕ!

**Ведаю, шаноўныя мае суайчыньнікі; чым вы займаецеся ў вольны ад працы час: дзеліце мільён свайго месячнага заробку на 23 тысячы, а потым дадаеце да гэтага 30%, каб у выніку атрымаць у далярах памер свайго заробку пасьля Новага году. Добра ведаю, якія словы гаворыце пасьля таго, як «падбілі бабкі». Таму прапаную пераключыць увагу з меркантыльных персьпектываў і зазірнуць у 1997 год на падставе папулярных сёньня ідэяў славянскага адзінства, саборнасьці, моцнай улады і рынкавага сацыялізму.**

Нас чакаюць вялікія страсьвені! Дзесьці пасьля жаночага дня 8 Сакавіка прэзідэнт і парламант паставяць пытаньне пра аб'яднаньне з Расеяй. Патрэбы ў правядзеньні новага рэферэндуму болей няма, але могуць і правесьці - вынік вядомы... Расейскія прэзідэнт і Дума горача падтрымаюць інтэграцыйную ініцыятыву. З хворым Б.Ельцыным усё можа здарыцца, а калі здарыцца сапраўды, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах і стане прэзідэнтам ССР. Абарону ўзначаліць маршал А.Лебедзь. Міністрам замежных справаў стане У.Жырыноўскі. Усю прэсу і радыё з тэлебачаньнем атрымае У.Замяталін. Кабінет міністраў узначаліць І.Ціцянкоў, а парламант ССР - Г.Зюганаў. Сьпецслужбы атрымае У.Кучынскі. Нафтавым і газавым міністрам стане М.Рыжкоў. Нацыянальнымі пытаньнямі будуць загадваць С.Посахаў з кампаніяй (Міграньян, Сьцяпашын, Грачоў).

Прыбалтыка будзе вернута сустрэчным ударам калінінградзка-беларускай і піцерскай вайсковых груповак да тага, пакуль пасьпее ўвайсьці ў НАТА. Севастопаль стане прычынай паўстаньня «спрадвечна расейскага насельніцтва Крымскай выспы» і яе акупацыі. Пачнецца паўстаньне пятай калоны на ўсходзе Украіны; будзе створаны «сапраўдны украінскі ўрад у Данецку. Аналагічныя падзеі пачнуцца ў Казахстане. Танкі ад Уралу могуць бесперашкодна ехаць да Паміру...

У гэтых падзеях Беларусь будзе адыграваць галоўную ролю.Бакі,якія ваююць, будуць праводзіць тут дыверсіі: узрываць чыгунку і масты, палявацца на вайсковых, палітычных дзеячаў і калабарантаў, рабіць перавальныя базы і сховішчы зброі і боезапасаў. Рэйды баевікоў з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход стануць звычайнай зьявай, гэтаксама як налёты бандытаў на банкі, прадпрыемствы і дамы грамадзянаў. З Беларусі пачнецца масавая эміграцыя, для спыненьня якой Захад узвядзе жалезную заслону на межах Польшчы, Чэхіі ды іншых краінаў Цэнтральнай Еўропы.

Тым часам у Расеі «новыя рускія», абараняючы свае інтарэсы, пачнуць грамадзянскую вайну. Пракоціцца хваля адзяленьня рэгіёнаў. Амбітныя суседзі, такія як Іран, Пакістан, Кітай, пачнуць экспансію на Каўказ, Сярэднюю Азію, Сібір і Далёкі Усход... Але апошнія падзеі наўрад ці пачнуцца ў наступным годзе, хутчэй, у 1998-м...

Вып'ем жа за тое, каб А.Лукашэнка даўжэй заставаўся ў Менску!

**Сяргей Самасей**

## СЯРГЕЙ АНТОНЧЫК НЕ ЗДАЕЦЦА

**Пасьля выступу Сяргея Антончыка перад Вярхоўным Саветам XII скліканьня аб карупцыі ў асяроддзі Лукашэнкі, газеты, якія спрабавалі надрукаваць даклад, выйшлі з «белымі плямамі». Гэта быў пачатак жорсткай цэнзуры ў дзяржаўных СМІ. Галоўны «заўгас» прэзідэнта Іван Ціцянкоў падаў на Антончыка ў суд. У былога дэпутата канфіскавалі маёмасьць. Пад час свайго нядаўняга побыту ў Горадні, спадар Сяргей расказаў карэспандэнту «ПАГОНІ» пра сва стаўленьне да дзеяньняў улад супраць яго і пра свае планы на будучае.**

***- Спадар Сяргей, вы пагадзіліся з рашэньнем суда?***

- Ці можна пагадзіцца з судом, калі суддзі нават адмовіліся разглядаць дакументы, якія падцьвярджалі тое, што я казаў у сваім дакладзе? Проста адміністрацыя прэзідэнта такім чынам хацела прымусіць мяне замаўчаць. Вывезьлі старую мэблю з хаты, не даюць уладкавацца на працу, кантралююць кожны мой крок. Сьмешна ўсё гэта! Беднасьцю мяне не запалохаеш. Зараз рыхтую адказ суду і адкрыты ліст да Лукашэнкі з новымі сьведчаньнямі пра Ціцянкова і яго асяроддзе.

***- Шмат хто гаворыць пра карупцыю ў адміністрацыі прэзідэнта. Пра нашумелыя справы з «Торгэкспа», з фондам Махмуда Эсамбаева і г.д. Але чаму'менавіта на вас ідзе такі ціск з боку ўлад?***

- Лукашэнка з паплечнікамі разумеюць, што парушаюць закон. І яны вельмі баяцца, каб гэта не дайшло да шырокіх пластоў насельніцтва. Многія палітыкі ня могуць і баяцца выступаць перад простымі людзьмі. А я ведаю, як гэта рабіць. Лукашэнка ўмее размаўляць з народам і таму разумее, у чым мая небясьпека для яго. Напрыклад, на мітынгу перад прадпрымальнікамі на стадыёне «Дынама» у Менску прамаўлялі дэпутаты, прадстаўнікі розных партый. Ніякіх захадаў супраць іх улады не прымалі. Але як толькі выступіў я, адразу быў арыштаваны міліцыяй.

***- Як вы ставіцеся да партый, якія існуюць на Беларусі?***

- На маю думку, у Беларусі партыі ня маюць сацыяльнай базы. Калі ў нас няма рэформаў, эканоміка не разьвіваецца, адсутнічаюць рынкавыя адносіны, як можна адрозьніць лібералаў, ад сацыял-дэмакратаў? Калі зямля не належыць сялянам, пра якую Сялянскую партыю можна казаць? Такая сітуацыя не дае магчымасьці разьвівацца партыям. Зараз у грамадстве зноў ёсьць попыт на агульнанародны рух. Людзей можна аб'яднаць ідэяй барацьбы супраць дыктатуры.

**Гутарыў Дз.КІСЕЛЬ.**



# ГРАМАДЗТВА

## ВІНАВАТЫЯ БЕЗ АБВІНАВАЧВАНЬНЯ

**17 сьнежня гарадзенскі Абласны гаспадарчы суд адмовіўся задаволіць іск гарадзенскага Радыё НБК прызнаць незаконным рашэньне гарадзенскіх уладаў забараніць выхад незалежнага радыё ў эфір. Пасьля двухгадзіннага разгляду справы суд на чале з суддзём С.Кулакоўскім прызнаў, што «полномочиями, определенными Положением о Службе Контроля Президента Республики Беларусь, были законные основания для приостановления операций по расчётному и иным счетам «Радио НБК»».**

**Каментуе сітуацыю галоўны рэдактар «Радыё НБК» Ніна Палуцкая.**

- 30 сьнежня напярэдадні Новага году «Радыё НБК» адзначае сумную дату -роўна тры месяцы вымушанага маўчаньня. Бязьмежнае пачуцьцё горычы і крыўды ад вераломнасьці ўладаў, але ёсьць яшчэ і пачуцьцё адказнасьці перад нашымі радыёслухачамі, якія нам верылі, чакалі нашую праграму, і якія яшчэ доўга працягвалі тэлефанаваць, абурацца і задаваць пытаньні.

Зараз у нас адключаны за няплату тэлефон, нам па-ранейшаму забараняюць вяшчаць, таму публікацыя ў газеце «Пагоня» - адзіны спосаб расказаць пра тую сітуацыю, якая склалася вакол нашага радыё. Я адкажу на асноўныя пытаньні, якія задавалі нашыя радыёслухачы па тэлефоне ці ў гутарках пры сустрэчы.

***-Калі ж мы зможам ізноў пачуць «Радыё НБК»?***

-Гэта пытаньне, на якое наўрад ці хто зможа адказаць. У адпаведнасьці з Законам "Аб друку", дзейнасьць любога СМІ, і нашага радыё ў тым ліку, можа быць спынена толькі самымі заснавальнікамі ці па рашэньню суду. У нашым выпадку не было ні таго , ні другога. У краіне прававога бязмежжа, якой зьяўляецца сёньня Беларусь, улады не стамлялі сябе гульнёй па агульнапрынятых правілах.Пачатак праверцы, якую вось ужо больш трох месяцаў праводзіць Галоўная управа службы кантролю прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці, пакладзены 23 верасьня. Налажыўшы арышт на банкаўскі рахунак «Радыё НБК», служба кантролю прэзідэнта з пачуцьцём выкананага абавязку палажыла нашую справу ў самую далёкую скрыню. Я падазраю - у скрыню бяз дна. Мне сказалі ў Галоўнай управе службы кантролю прэзідэнта, што ў вас шмат парушэньняў. Але афіцыйна нам да гэтага часу нічога не прад'яўлена. Ні канчатковага акту праверкі, ні якіх-небудзь прамежкавых. Іх проста не існуе. Паважаная Марыя Сямёнаўне Праташчык, начальнік управы СКП, выдатна разумее, што такі дакумант можна апратэставаць у судзе. Навошта лішнія клопаты? Заблакаваны рахунак і так паралізаваў дзейнасьць радыё, а там, чакай, яно спатыкнецца на перарэгістрацыі і памрэ сваёй сьмерцю без дадатковага выкарыстаньня атрутных рэчываў. Дзеля справядлівасьці, я павінна сказаць і пра парушэньні. Самае «страшнае», якое адразу выкрыў сваім пільным вокам галоўны сьпецыяліст Службы сп. Э.С.Грыво - гэта няправільна афармленая Дамова з нашым арэндадаўцам - Гарадзенскім радыё - тэлевізійным цэнтрам (АУРТ). Самае цікавае, што за тры гады супрацоўніцтва ў АУРТ і «Радыё НБК» ні разу не ўзьнікла прэтэнзіяў адзін да аднаго. «Радыё НБК» спраўна плаціла па рахункам, якія выстаўляла ўправа сувязі за тое, што мы выкарыстоўвалі правадную сетку для свайго вяшчаньня. Трэба сказаць, што рэжым аплаты ніколі ня быў «мягкім» для нас. Сума часам дасягала 80% усяго нашага даходу.

Можа быць вы, паважаныя радыёслухачы, думаеце, што нам было ўказана ў самы кароткі час зьнішчыць недахопы Дамовы. Не. Нам, як я ўжо гаварыла, ніякіх афіцыйных прэтэнзіяў пакуль не прад'яўлена. Затое страшнымі карамі за гэтыя парушэньні пастрашылі начальніка АУРТ мілейшага Пятра Іванавіча Івашэвіча і прымусілі яго... ня выправіць парушэньні, як можа быць ізноў нехта падумаў, а адсекчы «Радыё НБК» ад праваднoй сеткі. Што і было зроблена.

***-Што вы зьбіраецеся рабіць?***

-Пасьля неаднаразовых і безвыніковых спробаў дабіцца ад Службы Кантролю якога-небудзь рашэньня ці заключэньня па праверцы, я падала іск у абласны гаспадарчы суд. Пра вынік судовай справы вы ўжо ведаеце. Хачу зазначыць толькі, што паўнамоцтвы гэтай службы, нядаўна крыху рэарганізаванай прэзідэнтам і памяняўшай назву (Дзяржаўная Служба Кантролю), па праўдзе, бязмежныя. Што за паняцці такія «Закон», «Сіла закону»? Навошта яны, калі ёсьць Палажэньне аб Службе Кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?

Хачу выказаць бязмежную ўдзячнасьць усім, хто тэлефанаваў нам з жаданьнем падтрымаць, дапамагчы, нарэшце, высьвятліць прычыну нявыхаду ў эфір. Я ўдзячная ўсім, хто падпісваў лісты ў падтрымку «Радыё НБК» і асабліва тым, хто зьбіраў іх, пісаў уладам лісты ў нашую падтрымку. Больш 700 подпісаў нашых гараджанаў стаіць пад лістамі, якія адасланы на адрас главы адміністрацыі вобласьці А.І. Дубко і Н.І. Праташчык, начальніцы ўправы вышэйназванай службы. Ніякай рэакцыі ад адрасатаў не было. Уладу колькасьць подпісаў не зьбянтэжыла. Так што, паважаны народ, просьба высокае начальства па дробязях не турбаваць. Вось толькі як жыць далей? «Вочы ўніз і ўздоўж сьцяны» (цытата з М.Жванецкага часоў глухога застою).

## СЯМЁН ДОМАШ: ГЭТА ЎСЁ ПРЫДУМАЎ ХВОРЫ ЧАЛАВЕК

**Пасьля таго, як у «Народнай газеце» быў надрукаваны артыкул, у якім дзейнасьць былога старшыні гарадзенскага аблвыканкаму і абласнога Савету Сямёна Домаша была акрэсьлена як «злачынства без пакараньня», «Пагоня» не магла не пацікавіцца ў самога спадара Домаша ацэнкаю ягонай дзейнасьці на пасадах гарадзенскага «галавы».**

***-Сямён Мікалаевіч, Вы - галоўны гарадзенскі «мафіёзі»?***

-Калі аўтар з «Народнай газеты» толькі працаваў над артыкулам, я ўжо ведаў пра ягонае заданьне: сабраць кампрамат на мяне і С.Шарэцкага. Аўтар,калі быў з гэтым заданьнем у Горадні, выхваляўся перад сваімі знаёмымі, што меў працяглую размову з самім прэзідэнтам, пасьля чаго паехаў на Гарадзеншчыну для збору кампраметуючых матэрыялаў. Аднак, на мой погляд, загад быў выкананы вельмі недарэчна - я маю намер зьвярнуцца ў суд на яго і на газету, паколькі аўтар абылгаў і пераблытаў усё, што толькі магчыма. Чаго варты толькі адзін момант: некалькі разоў аўтар сьцьвярджае, што ніякай астравецкай ПМК-73 не існуе, тады як гэтая арганізацыя (сапраўдная назва ДБ ПМК-73) існавала і існуе.

***- Вы чакалі нейкага бруду ў свой адрас?***

-Была ўзятая мая «аб'ектыўка», аўтар пабываў у 145-й Астрынскай выбарчай акрузе ў Шчучынскім раёне. Свой артыкул ён пабудаваў у ганебным ключы. Перш за ўсё, ён мне паставіў у віну тое, што я не пагадзіўся ўдзельнічаць у новым парламанце, маўляў, «паглядзіце, хто сышоў». Дакараў, што я заняў пасаду дырэктара аўтабазы ў 24 гады. Потым, быццам бы выключна па ўласным жаданьні,





А.Лукашэнка косіцца на С.Домаша (справа)

пачаў рабіць кар'еру ў КПСС. І, нарэшце, уцёк з партыі ў структуры выканаўчай улады.

***-Гэта праўда, што Вы пасьля размовы з шэфам гарадзенскага КДБ са страху зьнялі сваю кандыдатуру на пасаду галоўнага «вертыкальшчыка» вобласьці?***

-Хлусьня. Тады прэзідэнт А.Лукашэнка сам прапанаваў тры кандыдатуры: маю, А.Дубко і У.Сямёнава. Спачатку А.Дубко сваю кандыдатуру зьняў. Аднак А.Лукашэнка, дарэчы, пасьля таго, як дэпутатамі абласнога савету былі абмеркаваны мая і У.Сямёнава кандыдатуры, ўсё-такі вырашыў прызначыць гарадзенскім «галавою» Аляксандра Іосіфавіча, паколькі я выказаў згоду працаваць з А.Дубко.

***-Вы «праходзілі» па справе аб кантрабандзе металаў...***

-Гэтая справа была распачата ў 1994 годзе. Мне вядома, што, некаторыя асобы з Горадні, а таксама адзін з набліжаных да А.Лукашэнкі дзеячоў, вельмі хацелі прыпісаць мне гэтую справу. Для гэтага нават зрабілі некалькі дзеяньняў (гэта я сьцьвярджаю з поўнай адказнасьцю), за якія ім яшчэ прыйдзецца адказваць па закону. Вінаватых КДБ так і не знайшоў. Усё скончылася тым, што ў траўні гэтага году, перад самым заканчэньнем сьледзтва, мяне дапыталі ў якасьці сьведкі, я падпісаў пратакол. З матэрыяламі справы мяне не знаёмілі; як сьцьвярджае аўтар артыкула, зараз справа спынена.

***-Вашыя выбаршчыкі сапраўды Вас ня любяць?***

-Перад рэферэндумам я выязджаў у сваю акругу, пытаўся ў людзей пра іх настроі. Калі даводзіў да іх ведама, да якіх наступстваў могуць прывесьці ініцыятывы А.Лукашэнкі, то ніхто не пярэчыў. Мы разьвіталіся пры поўным узаемаразуменьні.

***-У Вас прыгожая хата, я б ад такой не адмовіўся...***

-У Горадні ў некаторых, відаць, ужо языкі забалелі казаць пра маю хату. Калі мяне абралі старшынём аблвыканкаму, то сьпецслужбы запатрабавалі, каб мне быў прадастаўлены які-небудзь асобны будынак. Так было зручней арганізаваць ахову, якая тады была ўстаноўлена для кіраўнікоў такога ўзроўню. Я здаў дзяржаве сваю прыватызаваную чатырохпакаёвую кватэру. Потым засяліўся з сям'ёю разам з двума дарослымі сынамі, адзін з якіх зараз жанаты, у дом, які аб'яднаньне «Азот» вярнула гарвыканкаму, паколькі гэты будынак (1937 году пабудовы) патрабаваў паглыбленага рамонту. Рамонт, які ня скончыў і па сёньня, рабіў за ўласны кошт.

***-Вы пакінулі апазіцыю?***

-Не,не пакінуў.

***-А новы лёс разам з «Прыорбанкам»?***

-Сам я не пасьпеў паклапаціцца, але калі іншыя без мяне мяне прыстроілі ў гэты банк, то магу толькі падзякаваць.

На самой справе, пасьля гэтага зьневажальнага артыкула я панёс значную маральную шкоду. Пасьля чаго, магчыма, мне будзе цяжка знайсьці працу. Таму ў мае намеры ўваходзіць спагнаньне з аўтара і газеты сродкаў на сваё ўтрыманьне на час вымушанага беспрацоўя, калі такое здарыцца.

**Гутарыў Сяргей Самасей**

## У ПАДПОЛЬЛІ ...

**Семінар у рамках праекту «Фармаваньне грамадзкіх лідараў у посткамуністычнай Беларусі» праходзіў на лоне прыроды, у прафілакторыі непадалёку ад Горадні. Тут 20 і 21 сьнежня сабраліся ўплывовыя юрысты, дэпутаты і прэса, каб абмеркаваць прававыя і сацыяльна-эканамічныя падставы лідарства.**

**Адзін з арганізатараў семінару - прафесар Менскага незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў Алег Манаеў паведаміў, што месца выбрана наўмысна: пры правядзеньні семінараў у Берасьці і Магілёве ўзьнікалі непаразуменьні з уладамі. У Магілёве нават давялося засядаць у прыватным бары са стрыптызам...**

Першым выступіў М.Пастухоў, прафесар і сябра Канстытуцыйнага Суду (напісаў заяву аб звальненьні на імя С.Шарэцкага). Ён ахарактарызаваў сёньняшнюю сітуацыю ў Беларусі як разбурэньне прававога поля, якое пагаршаецца тым, што ўлады цалкам неадукаваныя ў прававой сьферы. Ён прапанаваў у якасьці агульнанацыянальнай ідэі абарону Канстытуцыі ўзору 1994 году. Прафесар таксама прапанаваў некалькі прававых лозунгаў, сярод якіх - захаваньне правоў чалавека, узмацненьне судовай улады і законнасьці. Пафаснасьць свайго выступу Міхаіл Пастухоў прызямліў , зрэшты, тым, што прызнаў,што ў нашых умовах ня будуць выконвацца а ні старая, а ні новая Канстытуцыі.

Потым дакладваў кандыдат юрыдычных навук С.Ляўшуноў. Яго палітычную ацэнку сітуацыі можна падсумаваць так: назад у СССР з усіх пунктаў гледжаньня. Сумленна прызнаў, што пры стварэньні Канстытуцыі, якая прадугледжвала пасаду Прэзідэнта, была зроблена памылка. Лічылася, што рэфарматарскі парламант абраны быць ня можа, а вось прэзідэнт мог узяцца за рэформы... Як вядома, Прэзідэнт узяўся за іншае.

Сяргей Ляўшуноў лічыць, што лідар сёньня можа вырасьці толькі па-за межамі прававога поля і толькі эксплуатуючы папулісцкія жаданьні.

Вельмі цікавым быў даклад прэзідэнта Фонду «Заканадаўчая ініцыятыва», кіраўніка паважанай юрыдычнай фірмы «Бараўцоў & Салей» спадара Валянціна Бараўцова. Ён расказаў аб заканадаўчых падставах лабіраваньня інтарэсаў асобных сацыяльных групаў і фірмаў. Вельмі красамоўнымі былі прыклады лабіраваньня інтарэсаў кампаніяў «Кока-Кола», «Форд» і «Макдональдс» на Беларусі, калі «Макдональдс», каб спыніць пратэсты жыхароў, якія не хацелі адкрыцьця рэстарану, абавязаўся бясплатна карміць дзяцей у навакольных школах і запрасіць іх на адкрыцьцё рэстарану, таксама бясплатна.

Фірма спадара Бараўцова мела прапановы ад шведаў і галандцаў, якія былі зацікаўленыя ў інвестыцыях на Гарадзеншчыне. Аднак перамовы з гарадзенскімі прадпрыемствамі завяршыліся безвынікова. Адказваючы на пытаньні, ён сказаў, што лабізм адрозніваецца ад карупцыі метадамі дзеяньня. Большасьць лабістаў дзейнічаюць неафіцыйна, таму насьпела неабходнасьць прыняць Закон аб лабізме. І нарэшце, заўважыў, што сёньняшняе пакаленьне чыноўнікаў вельмі любіць хабар.

Дацэнт Галіна Восіпава яскрава паказала непадрыхтаванасьць заканадаўчай базы для прадпрымальніцкай дзейнасьці і высьпяваньня лідараў сярод бізнесменаў. Асабліва неспрыяльнай зьяўляецца фактычная няроўнасьць усіх формаў уласнасьці. Міліцыя ня хоча абараняць «багацеяў». Аднак сп. Восіпава спадзяецца, што жыцьцё вернецца ў натуральнае рэчышча... У тым жа ключы быў даклад дэпутата Вярхоўнага Савету 13 скліканьня спадара А.Дабравольскага.

Пры абмене думкамі старшыня абласной калегіі адвакатаў В.Чэрнік вельмі абураўся станам выкананьня законаў: -Я ўжо працую больш 40 гадоў,- казаў адвакат, - але такой садысцкай зьнявагі не было. Я паведамляю пракурору жудасныя факты, а ён мне ў адказ: «А ты што, ня ведаў?».

Ён спадзяецца, што нашаму грамадзтву дапаможа сусьветная супольнасьць.

Студэнты А.Міхаліцына, Дз.Арцукевіч, С.Кульмухаметава казалі пра тое, што свабода для іх - натуральная рэч. Але моладзь палітычна пасіўная таму, што пакуль знаходзіць пралазы ў перашкодах. Калі іх «дастануць», яны могуць пакрыўдзіцца.

На заканчэньне семінару прагучала прапанова працаваць па-новаму, пакрыць краіну сеткай дэмакратычных суполак і паступова памяншаць памеры дзірак. Слушная прапанова, але хто будзе гэтым займацца?

**Сяргей Самасей**

## НАМ ДАЛЯРЫ НЕ ПАТРЭБНЫ?

**Запланаваны на сьнежань візіт у Беларусь місіі Міжнароднага валютнага фонду не адбудзецца.Задачамі місіяў МФВ зьяўляецца збор інфармацыі, якая датычыцца асноўных паказчыкаў стану эканомікі той ці іншай краіны. Аднак дзяржаўны бюджэт Беларусі на 1997 год пакуль не зацьверджаны, таксама як і макраэканамічныя паказчыкі, асноўныя метады стабілізацыі эканомікі і палітыка курсаўтварэньня. У сувязі з гэтым МФВ палічыў немэтазгодным дасылаць у Менск сваіх прадстаўнікоў.**

Як вядома, Беларусь змагла атрымаць толькі адну частку крэдыту stand-by — восеньню 1995 году — у памеры каля 70 мільёнаў даляраў, у той час як агульная сума крэдыту, зацьверджаная кіраўніцтвам МВФ, складае 280 мільёнаў даляраў. Выдзяленьне рэспубліцы астатніх траншаў крэдыту прыпынена ў сувязі з тым, што беларускае кіраўніцтва адступіла ад сумесна распрацоўваемай праграмы стабілізацыі эканомікі. Адступленьне было зроблена ў тэрмінах прыватызацыі, ажыцьцяўленьні сістэмных рэформаў і палітыцы курсаўтварэньня.

## УКРАІНСКАЙ ГРЫЎНЕ - 100 ДЗЁН

**На мінулым тыдні фінансавыя арганізацыі Захаду ўхвалілі выдзяленьне Украіне 3.5 мільярдаў даляраў на правядзеньне эканамічных рэформаў рынкавага характару.**

Украіна на днях адзначыла 100 дзён увядзеньня ў дзеяньне новай грашовай адзінкі - грыўны. За гэты час грыўна атрымала міжнароднае прызнаньне як дастаткова цьвёрдая валюта, якая можа быць канвертаваная ў іншыя грошы. Кіраўніцтва фірмы «Visa-International» даслала ў Нацбанк Украіны ліст, у якім паведаміла аб тым, што яе крэдытавыя карткі могуць быць разлічаныя ў грыўнах.

Пасьля ўвядзеньня новай валюты ў верасьні гэтага году інфляцыя не перавышала 2%. Польскія абменныя канторы пачалі прымаць грыўны для абмену. Хаця да стабілізацыі фінансава-гаспадарчай сістэмы яшчэ далёка - грыўна ўстаяла. Крэдытная дапамога Захаду ёй зараз патрэбна, як ніколі.

## ПАРАДНІЛІСЯ З ПРАФСАЮЗАМ

**23 сьнежня ў Доме прафсаюзаў Горадні адбыўся ўстаноўчы сход прафсаюзнай арганізацыі гандляроў рэчавага рынку, які знаходзіцца каля пасёлку Паўднёвы.**

Прысутныя на сходзе вырашылі стварыць сваю прафсаюзную арганізацыю. Пасьля чаго ўвялі яе ў склад афіцыйнага прафсаюзу работнікаў гандлю.

**Д.К.**







# АКТУАЛІІ

## *ПАТАЕМНАЯ МАРА - ПАСТАВІЦЬ ПОМНІК МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ Ў ГОРАДНІ*



**Напярэдадні Новага году «Пагоня» зьвярнулася да вядомай паэткі, дырэктаркі літаратурнага музею імя Максіма Багдановіча ў Горадні Дануты Бічэль - Загнетавай з просьбай расказаць, якім быў для яе год, што адыходзіць. Чаго чакае спадарыня Данута ад 1997 году?**

-Вельмі сумна, што ў нас склалася такая сітуацыя ў краіне. Беларусы самі разбураюць сваю Радзіму. Але перад сьвятам ня хочацца казаць пра дрэннае. Ёсьць Бог, і Ён нас не пакіне.

Што датычыць мяне асабіста, дык літаратурнай дзейнасьцю ў мінулым годзе я амаль не займалася. Увесь час забірае музей. Пакуль палітыкі займаліся «разборкамі», мы выкарысталі час і зрабілі рамонт. Набылі шмат экспанатаў у асноўныя фонды, перш за ўсё кнігаў. Купілі крыху старадрукаў, літаратуры Багдановічаўскіх часоў. Сваімі сіламі стварылі экспазіцыю «Літаратурная Гарадзеншчына». Усё гэта -дзякуючы падтрымцы гарвыканкаму, за дзяржаўныя грошы. Спонсараў у музею няма.

Нас наведала 13 тысячаў чалавек. Гэта нямнога, але і нямала.Нашыя сябры з кафедры беларускай культуры універсітэту прыводзілі шмат студэнтаў. Можна сказаць, што музей стаў універсітэцкім. Так што гэты год быў удалым.

На наступны год плануем заняцца выдавецкай дзейнасьцю. Ёсьць магчымасьць зрабіць публікацыі музейных дакумантаў, лістоў Ларысы Геніюш, Аляксея Карпюка, Уладзіміра Калесьніка. Неабходна зьняць фільмы пра пісьменнікаў, якія зьяўляюцца гонарам Гарадзеншчыны. Пашырыць музей, каб была магчымасьць рабіць літаратурныя выставы. А патаемная нашая мара - паставіць помнік Максіму Багдановічу ў Горадні. Але на ўсё гэта патрэбны грошы. Адзінае, што мы напэўна зробім - гэта памінальны дзень у траўні, калі спаўняецца 80 гадоў з дня сьмерці Багдановіча.

**Гутарыў Дз. Кісель.**

## *ЯК СУСТРАКАЮЦЬ СЬВЯТА*

...У Японіі да гэтага часу вераць, што з першай секундай Новага году чалавек пераступае нябачны парог, за якім вызначаны паварот лёсу. Японцы імкнуцца ў гэты дзень прыдбаць ракетку - прадмет традыцыйнай навагодняй гульні. Згодна паданьню, гэта адзін з метадаў адвесьці ад чалавека няшчасьце ў наступным годзе.

У Італіі дзецям расказваюць казкі аб старой чараўніцы Бефане, якая трапляе ў дом праз комін і кладзе падарункі дзецям у чаравікі.

...у вёсках Ліберыі з даўніх часоў павялася такая традыцыя: падносіць паважнаму госьцю арэх кола ў знак дружалюбных адносінаў.

...у некаторых індзейскіх плямёнаў у Мексіцы існуе звычай выказваць добрыя пажаданьні ў выглядзе малюнку на шчацэ. Той, хто віншуе, малюе на шчоках віншуемых акуратныя кружочкі з промнямі,якія разыходзяцца ў розныя бакі.

...у Англіі разьвешваюць галінкі магічнай амялы. Званы спачатку прыглушана і сумна звоняць па паміраючаму году, а а поўначы гучна вызвоньваюць прадасьць сустрэчы з Новым годам.

...жыхары Гаваны перад Новым годам напаўняюць збаны вадой, а на Новы год выліваюць яе праз вокны - няхай стары год адляцяць, як празрысты струмень вады!..

...у Аўстраліі і Новай Зеландыі Новы год прыходзіцца сустракаць сьлякотным летам. Ды і ёлкі там не растуць. Аднак быццам сьпецыяльна да сьвята ў Новай Зеландыі перад Новым годам зацьвітае адно з найпрыгажэйшых дрэваў, якое так і завецца «навагоднім». У гэтыя дні яно пакрываецца буйнымі ярка-пунцовымі кветкамі.

**Падрыхтаваў Ю.Шастак**




## *ЗАЎТРА - ГОРАДНЯ?*



**Напярэдадні Новага году карэспандэнт «Пагоні» сустрэўся з гарадзенскім мастаком Алесем Суровым, вядомым чытачам «Пагоні» як аўтара многіх карыкатураў, надрукаваных у нашай газеце.**

***-Ты можаш прыгадаць сёньня якія-небудзь адметныя ў тваім жыцьці навагоднія сьвяты?***

-Найбольш яркія гады наперадзе. Я аптыміст, і кожны год нясе для мяне толькі цікавыя здарэньні!

***-Якім быў для цябе гэты год?***

-Гэты год быў вельмі цікавы на падзеі. Нягледзячы на ўсе паразы дэмакратыі я рады, што, як у фатаграфічным працэсе, пачалася «праяўка» - хто ёсьць хто. Сплывае ўсё несапраўднае, здрадніцкае. Яшчэ рады, што ўдалося шмат зрабіць, у тым ліку і ў «Пагоні».

***-Чаго ты чакаеш ад гэтага Новага году?***

-Калі расейскія войскі ўвялі ў Чачню, вядомы праваабаронца Сяргей Кавалёў сказаў: «Сёньня Грозны - заўтра Горадня». Але сёньня расейскія войскі пакінулі Грозны. Я маю надзею, што Новы год прынясе і нам вызваленьне. Для гэтага трэба будзе папрацаваць. Так што з Новым годам усіх!

**Гутарыў Віктар Людвіковіч**



**27 сьнежня**



**1836 г.** У мястэчку Жалудок нарадзіўся Валеры Урублеўскі (160 гадоў таму),удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, паплечнік Каліноўскага. Генерал Парыжскай Камуны.

**1918 г.** У Горадню пераехала Рада БНР (знаходзілася ў горадзе да красавіка 1919г.).

**1924 г.** У Парыжы памёр Леў Бакст, мастак, тэатральны дэкаратар, стыліст. Нараджэнец Горадні.

**28 сьнежня**

**1588 г.** Адпаведна пастанове Кракаўскага Сойму, Горадня стала цэнтрам каралеўскай эканоміі.

**29 сьнежня**

**1830 г.** Пачалося вызвольнае паўстаньне ў Беларусі, Летуве і Польшчы.

**1896 г.** У мястэчку Поразава (Сьвіслацкі раён) нарадзілася Юлія Бібіла (100 гадоў таму), беларуская дасьледчыца, бібліёграф.

**30 сьнежня**

**1879 г.** У Горадні нарадзіўся Якуба Чэхаўскі, барэц і атлет, шырока вядомы ў дваццатыя гады.

**1911 г.** У вёсцы Марцянаўцы (Ваўкавыскі раён) нарадзілася Лідзія Ялоўчык (спаўняецца 85 гадоў), пісьменьніца і педагог.

**31 сьнежня**

**1991 г.** Памёр Юры Астроўскі, акадэмік, доктар медычных навук, які значны час жыў у Горадні.

**1 студзеня**

У вёсцы Біскупцы (Лідскі раён) нарадзілася Данута Бічэль-Загнетава, паэтка, дырэктарка гарадзенскага літаратурнага музею імя Максіма Багдановіча.

**1861 г.** У вёсцы Лаша (Гарадзенскі раён) нарадзіўся Яўхім Карскі, філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства.

**2 студзеня**

**1946 г.** У Наваельні (Дзятлаўскі раён) нарадзіўся Кастусь Ільюшчыц, сучасны паэт.

**Падрыхтаваў Ул.Хільмановіч**

## *ПАВАРАЖЫ Ў ГЭТУЮ НОЧ*

**Хто ня хоча зазірнуць у сваю будучыню? Напярэдадні Новага году гэта зрабіць прасьцей за ўсё.**

Самае вялікае распаўсюджаньне атрымала варажба маладых дзяўчатаў аб замужжы. Амаль ва ўсіх народаў Еўропы ў якасьці прадмета варажбы служыць дамашні абутак. Чаравік кідаюць цераз плот, вароты, у вакно. І калі ён будзе павернуты ў бок дому, значыць, дзяўчына абавязкова ў новым годзе выйдзе замуж.

Аб дастатку будучага жаніха варожаць пры дапамозе фасолі. Жменю фасолі ў Навагоднюю ноч дзяўчаты кладуць пад падушку, а раніцай 1 студзеня наўздагад выцягваюць адну фасоліну. Калі трапляецца ачышчаная, гэта азначае, што жаніх будзе бедны, калі не - багаты.

У Італіі дзяўчаты-сялянкі набіралі 1 студзеня з калодзежа «чароўную ваду». Памыўшыся ёю дома, яны вылівалі ваду на вуліцу і замiралі каля вокнаў, назіраючы, які мужчына пройдзе па мокрым месцы. Так будзе выглядаць і жаніх.

Галандзкія дзяўчаты імкнуліся ў перадnавагодні дзень быць асабліва старннымі. Па старым павер'і, тая з іх, якая не пасьпее перарабіць усе патрэбныя справы да заходу сонца, ня выйдзе замуж у Новым годзе.

Англічанкі верылі, што можна ўбачыць нарачонага, калі разрэзаць яблык на дзевяць частак і,стоячы перад люстэркам, зьесьці восем з іх, а дзевятую кінуць праз левае плячо.

У скандынаўскіх дзяўчатаў было другое павер'е як можна абвараўжыць хлопца. Калі ў Навагоднюю ноч дзяўчына пачастуе яго віном, у якое дадасьць некалькі кропель сваёй крыві, хлопец «прысохне» да яе ўсім сэрцам. Гэты «напой каханьня» лічыўся самым надзейным і праверaным стагоддзямі сродкам.

Жыхаркі Нарвегіі ў Каляды імкнуліся зазірнуць у вакно або замочную шчыліну царквы - там можна было ўбачыць, хто ажэніцца ў Новым годзе.

Да стала Навагодняй вячэры паўночныя дзяўчаты запякалі ў ляпёшкі розныя прадметы. Каму трапляўся абручальны пярсьцёнак - той ажэніцца, выйдзе замуж, каму манета - разбагацее, гузік - застанецца халастым.

У Польшчы дзяўчаты прыносілі ў хату бярэма дроваў, кідалі на падлогу па адным палене, прыгаворваючы пры гэтым: «Кавалер, удавец, кавалер, удавец». Па слову, якое пападзе на апошняе паленца, вызначалі, хто дастанецца ў мужы.

Заходнія славяне каб даведацца, ці ажэніцца хлопец з дзяўчынай, пускалі ў ваду дзьве скарлупкі яйка: калі яны наблізяцца адна да другога - быць вясельлю.

На выспах Краіны Узыходзячага Сонца прадстаўніцы «слабой паловы» марылі ўбачыць у сьне лёд,што азначала хуткае замужжа, і вельмі баяліся ўбачыць дождж, які мог прынесьці адныя непрыемнасьці.

...І ўсё ж давайце паварожым, а раптам...

**Ю.Шастак.**

# КРЫЖАВАНКА



*Пераклaдзі на беларускую мову*

**Па гарызанталі:** 7.Шлёпанцы. 8. Приют. 10. Размол. 11. Западня. 13. Потеря. 14. Обработка. 15. Фитиль. 17. Стоимость. 18. Картошка. 19. Замужняя женщина. 23. Башня. 24. Пища. 25. Сыворотка. 27. Кисет. 28. Бечёвка. 29. Полушка. 31. Побег, росток. 32. Борьба.

**Па вертыкалі:** 1. Напасть. 2. Кость. 3. Порча. 4. Веялка. 5. Отрава. 6. Месиво. 9. Коготь. 12. Истопник. 13. Копилка. 16. Гроб. 17. Закут. 20. Перевод. 21. Кузнец. 22. Типография. 25. Смесь. 26. Осада. 29. Скворец. 30. Резина.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары:**

**Па гарызанталі:** 5. Жужала. 6. Прысуд. 10. Бурак. 11. Качка. 12. Калыска. 15. Шворан. 16. Цуд. 17. Матыка. 20. Прыпар. 21. Кірмаш. 25. Порткі. 26. Гай. 27. Статут. 31. Падатак. 33. Капыт. 34. Жазло. 35. Сподак. 36. Гарбуз.

**Па вертыкалі:** 1. Лузан. 2. Клопат. 3. Гронка. 4. Кухан. 7. Тулава. 8. Трыбух. 9. Ікаўка. 13. Разьнікі. 14. Гармата. 18. Кат. 19. Лік. 22. Пошчак. 23. Качаня. 24. Куфель. 28. Жабрак. 29. Тартак. 30. Выспа. 32. Пазур.

## *«КРАМА» Ў ГОРАДНІ*



19 сьнежня ў гарадзенскім кінатэатры «Космас» адбыўся рок-канцэрт з удзелам вядомага менскага гурта «Крама» **(на здымку)**, які ўпершыню выступаў у Горадні.

Разам з сталічнымі музыкамі, якія парадавалі сваіх заўзятараў новымі і старымі хітамі («Стэфка», «Бяжы, бяжы, хлопец») у канцэрце ўзялі ўдзел гарадзенскі гурт «Sleeping bees» і польскі «Blues bear drinkers».

В.Л.

